

# НавіНЫ

РАДАЎ БЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА ФРОНТУ "АДРАДЖЭНЬНЕ"

нумар 11 кастрычнік 1999 г.


## «Дзяды» — 99

Лукашэнкаўскі рэжым спрабуе забараніць і зьнішчыць усё беларускае. Таму ён паспрабаваў адмяніць «Дзяды». Але забараніць дзень памяці продкаў ня можа ніякая ўлада, тым больш акупацыйная. Як заўжды, тысячы беларусаў прыйдуць на могілкі, каб паставіць сьвечкі. А вечарам у сямейным коле будуць ушаноўвацца ўсе продкі, бо без мінулага няма будучыні. У Менску 31 кастрычніка людзі зьбяруцца а 12 гадзіне на Ўсходніх могілках (адзін прыпынак у бок Уручча ад станцыі мэтро «Усход»). А 14 гадзіне пачнецца традыцыйны мітынг-рэквіем у Курапатах.

# Адзінства магчымае толькі сярод аднадумцаў

### *Ліст да сяброў БНФ «Адраджэньне»*



Дарагія паплечнікі! Апошнімі месяцамі кіраўнікі Беларускага Народнага Фронту, у тым ліку і я, асабіста сустракалі многіх з вас падчас паездак па краіне. Цешуся, што ў Фронце мацуецца разуменьне таго, як неабходнае нам адзінства дзеля Беларусі. Зьвярнуцца да вас у форме ліста, а не непасрэдна, мяне вымушаюць акалічнасьці: ня мушу патрапіць на судовую лаву перад Зьездам і таму часова абмяжоўваю паездкі.

1-я сэсія VI Зьезду БНФ «Адраджэньне» пастанавіла закончыць працу Зьезду ў верасьні-кастрычніку. Верасьнёўскі Сойм у выкананьне гэтага рашэньня Зьезду прыняў, на маю думку, узважанае рашэньне: правесьці другую сэсію VI Зьезду ў апошнія выходныя кастрычніка. Па-першае, за два месяцы быў бы час спакойна й сур'ёзна задумацца пра нашыя ўнутрыфронтаўскія справы. Па-другое, яшчэ ўлетку было ясна, што восень мае быць гарачая, бо Лукашэнка траціць легітымныя паўнамоцтвы й будзе ратаваць сваю палітычную шкуру ўсімі спосабамі. Правёўшы незалежніцкія палітычныя акцыі, пабачыўшы, чым закончацца гісторыі зь перарэгістрацыяй і зь перамоўным працэсам, можна было б і пра далейшы арганізацыйны лёс Фронту разважаць больш абгрунтавана.

Але людзі, якія цяпер называюць сябе сябрамі Кансэрватыўна-хрысьціянскай партыі (КХП), абралі іншы шлях. Яны ласкава пакінулі нам палітычную працу, пакінулі нам рыхтаваць і праводзіць змагарную палітычную восень, а самі заняліся іншай, на іхную думку, больш патрэбнай для Беларусі справай.

Якія толькі ярлыкі на нас ні клеілі: мы і пазытывісты, і прагматыкі, і чыстыя культурнікі, і сафісты, і схалясты... Але як толькі дайшло да практычнае палітыкі, да канкрэтнага выбару, адразу высьветлілася, хто ёсьць хто.

Гэта паказала першая ж значная акцыя, ладжаная ў міжчасьсі Фронтам. Традыцыйна, ужо шмат гадоў, пачынаем палітычны сэзон сьвяткаваньнем Дня беларускай вайсковай славы 8 Верасьня. І на гэты раз Управа БНФ у Менску пачала рыхтаваць улёткі, ладзіць мастацкую частку сьвята, вырашаць тэхнічныя праблемы. Але... нашыя калегі з тых, што пазьней утварылі КХП, паціху намовілі некаторых менскіх радных байкатаваць роскід улётак. Добрая палова накладу засталася ляжаць мёртвым грузам — і ў выніку на сьвяце было ўдвая меней народу, чым магло б. Затое нашыя сябры — будучыя КХПісты — былі занятыя больш важнай справай: яны ў гэты час зацята рыхтавалі свой сэпаратны раскольніцкі зьезд.

Сытуацыя паўтарылася і з Маршам Свабоды. Калі мы чынна ўзяліся рыхтаваць гэтую цэнтральную незалежніцкую акцыю восені (і году), нашыя сябры-КХПісты хадзілі ды езьдзілі па радах з чарговымі пасланьнямі здалёк, намаўляючы фронтаўцаў расколоць яшчэ і рух БНФ «Адраджэньне». Ці то правесьці асобны зьезд «пазьняковскага» руху БНФ, ці то сарваць 2-ю сэсію VI Зьезду, калі яна ўсё ж адбудзецца пры ранейшым складзе дэлегатаў. А чарговы нью-ёркскі факс загадзя абазваў Марш Свабоды «гапонаўшчынай» і запатрабаваў ад КХПістаў байкатаваць гэтую найважнейшую палітычную падзею восені.

*заканчэньне на стар. 2*

# Адзінства магчымае толькі сярод аднадумцаў

*пачатак на стар. 1*

Прытым не прапанавалася ніякага іншага спосабу процістаяць анэксіі Беларусі. І, што сумна, КХПісты настолькі страцілі адчуваньне рэальнасьці, што... сапраўды ўзяліся за байкот акцыі! Разьяжджалі па менскіх і рэгіянальных фронтаўскіх радах і агітавалі ня йсьці на Марш. На шчасьце, ім гэта не дапамагло.

На менскія вуліцы выйшла каля 25 тысяч чалавек, чаго не было вельмі даўно. Сярод іх былі прадстаўнікі розных партыяў і розных палітычных пакаленьняў: сябры і БНФ (ды Партыі БНФ), і АГП, і БСДП(НГ), і БСДГ, і Сялянскай партыі, і незалежных прафсаюзаў, і грамадзкіх арганізацыяў, згуртаваных у Асамблею... Таму і атрымаўся Марш сапраўды масавым, адгукнуўся — безь перабольшаньня — на ўвесь сьвет як магутны доказ няскоранасьці беларускае нацыі перад дыктатурай і імпэрыяй. А заканчэньне Маршу выявіла, якую патэнцыйную сілу набывае мужны стыхійны пратэст супраць дыктатуры й паўзучай акупацыі.

У выніку:

- *Незалежніцкія дэмакратычныя арганізацыі Беларусі ўпершыню за тры гады даказалі, што яны не маргіналы, ня «кучка адшчапенцаў», а моцная й адважная палітычная сіла, здольная ў варунках усеагульнага страху і ўціску выводзіць на вуліцы дзясяткі тысячаў людзей.*
- *Беларускае пытаньне пастаўленае перад Расеяй, прычым зусім ня ў тым ключы, на які спадзяваліся расейскія стратэгі. Расея дагэтуль меркавала падпісаць «саюзную дамову» зь Беларусьсю бязь лішняга шуму, каб не адцягвацца ад асноўнага — душэньня Каўказу. Але зараз яна змушаная пагаджацца на нутраныя спрэчкі, ці трэба тая дамова наагул.*
- *Беларускае пытаньне зноў пастаўленае на міжнародны парадак дня. Увесь сьвет дзякуючы тэлевізіі ўспомніў пра паняволеную лукашыстамі, але ня скораную краіну. АБСЭ і яе Кансультацыйна-назіральная група ў Менску, дагэтуль амаль яўна настроеныя не заўважаць беларускай апазыцыі, тут нарэшце змушаныя востра рэагаваць на паводзіны лукашыстаў.*
- *Узьнікае зусім іншы, неспрыяльны для лукашыстаў, кантэкст г.зв. падрыхтоўкі перамоўнага працэсу.*
- *Чынавенства спалохалася, а Лукашэнка ў стане стрэсу больш як тыдзень хаваўся ад публікі.*

Зразумела, адным з нашых клопатаў цяпер ёсьць дапамога пацярпелым. Зразумела, афіцыёзная прапаганда скарыстоўвала й будзе скарыстоўваць відэакадры сутыкненьняў для ачарненьня незалежніцкіх сілаў. Але да гэтага не прывыкаць: успомніце вясну 1996 году. Галоўнае — адбылася БЕЛАРУСКАЯ ПАДЗЕЯ ГЛЯБАЛЬНАГА МАШТАБУ, мы даказалі, што ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ.

Марш Свабоды 17 кастрычніка даў адказы на некаторыя пытаньні ўнутрыфронтаўскае дыскусіі. Па-першае, ясна, што масавай акцыя атрымалася, бо была не сэпаратнай, а супольнай. Па-другое, не было б ані масавасьці, ані самой акцыі, каб не тэхнічныя рэсурсы й новыя інфармацыйныя тэхналёгіі.

Але дзе ж былі нашыя калегі, якія перайшлі ў КХП? Многія бачылі, як пахваліла Беларускае тэлебачаньне спадара Ю. Беленькага, паказаўшы ягонае аблічча з словамі: «...Але разважлівыя палітыкі не пайшлі на гэтую акцыю». Што ж, не ўпершыню зімоўскія з казіяткамі хваляць або з задавальненьнем цытуюць спадароў, якія цяпер кіруюць КХП. Цяпер яны таксама маюць усе падставы гэта рабіць.

Падсумуем.

Марш Свабоды падтрымалі: *БНФ «Адраджэньне» і Партыя БНФ, АГП, БСДГ, БСДП(НГ), незалежныя прафсаюзы, дэмакратычныя няўрадавыя арганізацыі, свабодная прэса, міжнародная дэмакратычная грамадзкасьць, урады заходніх краін.*

Марш Свабоды асудзілі: *лукашысцкі рэжым, Дзяржаўная дума Расеі, КПБ, БПСМ, ПКБ, ЛДПБ, КХП.*

Мая думка такая: пара канчаць з навязлай дэмагогіяй пра «маральны выбар». Кіраўніцтвам КХП маральны й палітычны выбар зроблены. Слова цяпер за шараговымі сябрамі Фронту й Партыі БНФ. Хто і надалей зьбіраецца сьлепа выконваць адарваныя ад беларускай рэальнасьці загады й фактычна апраўдвае анэксію, — калі ласка, ідзіце ў КХП. Хто за рэальную палітычную барацьбу супраць дыктатуры — той з намі, той застаецца ў БНФ «Адраджэньне» й Партыі БНФ.

***Вінцук ВЯЧОРКА***
*Намесьнік Старшыні БНФ*
*і Партыі БНФ*
*Старшыня Аргкамітэту*
*VI Зьезду БНФ «Адраджэньне» й*
*IV Зьезду Партыі БНФ*



# Будзьма разам!

Пішучы гэтыя радкі, ведаю, што, можа быць, ужо неўзабаве апынуся за кратамі, але перакананы, што зьяжджаць зь Беларусі — немэтазгодна, таксама як і ісьці дабраахвотна здавацца. Буду і надалей спрабаваць актыўна працаваць нелегальна аж дагэтуль, пакуль гэта будзе ўдавацца рабіць.

Хацеў бы напісаь некалькі словаў пра тую сытуацыю, якая склалася ў нас у Беларусі, і ў Фронце ў прыватнасьці.

Упершыню мы паспрабавалі аб'яднаць усе намаганьні апазыцыі для выкананьня пастаўленай канкрэтнай мэты: правядзеньня моцнай восеньскай акцыі. Хаця нам як прадстаўнікам Фронту было рабіць гэта няпроста, улічваючы крытыку і, мякка кажучы, непрыгожыя паводзіны кіраўніцтва КХП, што значна аслабіла ўдзел Фронту ў падрыхтоўцы гэтай акцыі і прывяло, урэшце, да некаторых недахопаў падчас яе правядзеньня. Але гэта прыкрыя дробязі, якія заўсёды існуюць, калі робіцца нейкая вялікая і сур'ёзная работа. Але стратэгічна, як мне падаецца, нам удалося выканаць пастаўленую задачу.

Па-першае, мы паказалі, што можна зладжана працаваць з рознымі палітычнымі групоўкамі і грамадзкімі арганізацыямі для дасягненьня пастаўленай палітычнай мэты. Можна і трэба дамаўляцца, бо аб'яднаныя людзкія, матэрыяльныя і інфармацыйныя магчымасьці значна большыя, шырэйшыя і глыбейшыя за магчымасьці адной арганізацыі (тое, што мы доўга і ўпарта тлумачылі нашым апанэнтам з КХП).

Я перакананы, што на спрэчкі, звадкі, мінулыя крыўды з нашымі патэнцыйнымі саюзьнікамі мы павінны забыцца. Такія паводзіны дыктуе нам лёгіка сёньняшняга палітычнага жыцьця. Трэба менш зважаць на рыторыку змаганьня (не ствараць, да прыкладу, «вызвольных рухаў» з пэнсіянэраў і жанчынаў), а больш — на дзеяньне ў змаганьні. Бо нашыя патэнцыйныя і стратэгічныя саюзьнікі — гэта ўсе тыя, хто робіць з карысьцю дзеля толькі адной справы — усталяваньня сапраўднай незалежнасьці і сапраўднай дэмакратыі ў Беларусі.

Я разглядаю гэтыя два паняцьці: незалежнасьць і дэмакратыя — як два бакі аднаго мэдаля. Беларусі патрэбны цэлы мэдаль, а не адна зь яго палавінак.

Гэта ёсьць прынцыповы пастулят пры далейшым разьвіцьці Фронту. Мы не павінны адыходзіць ад яго і на цалю, нягледзячы на ўсе складанасьці, якія нас чакаюць наперадзе.



Такі шлях — ён больш складаны і патрабуе большай вытрымкі і прафэсіяналізму ў правядзеньні ўласнай палітыкі Фронту і адстойваньні яго інтарэсаў, бо мы ўступаем у шматвэктарныя палітычныя ўзаемадачыненьні. Але такі шлях, несумненна, больш

плённы і карысны як для Беларусі, так і для Фронту. Фронт, выкарыстоўваючы свой палітычны і інтэлектуальны патэнцыял, у стане сёньня праводзіць супольную, зладжаную палітыку, не адступаючы ад сваіх інтарэсаў.

Акцыя 17 кастрычніка, і, як лакмусавая паперка, рэакцыя на яе беларускіх уладаў, гэты шал, сьцеклівасьць і пырсканьне сьпіной паказалі, наколькі ўлады панічна баяцца рэальнага аб'яднаньня апазіцыі ў дзеяньні. Мы іх дасталі, і мы іх дастанем яшчэ больш, калі будзем паслядоўна праводзіць сваю палітыку ў гэтым накірунку.

Па-другое, мэты, якія мы як прадстаўнікі Фронту ставілі пры правядзеньні гэтай акцыі, былі дасягнутыя. Я кажу пра тое, што мы сабралі некалькі дзясяткаў тысячаў людзей, якія адназначна выказаліся супраць аб'яднаньня з Расеяй. Гэта ўдалося ўпершыню за апошнія два гады. І гэта ўдалося падчас так званага «абмеркаваньня» чарговай саюзнай дамовы. Мы паказалі ўсяму сьвету, а таксама і Расеі, чаго хочуць беларусы і як яны рэагуюць на ўладу Лукашэнкі. Тым болей незразумелая палітыка З. Пазьняка, які адгаворваў (!) фронтаўцаў рыхтаваць ды ісьці на гэтую акцыю. Недаравальна, калі ўласныя інтарэсы, уласнае «я» становіцца вышэй за інтарэсы Беларусі.

А цяпер да справаў Фронту. Я выразна бачу, што Фронт годна перажывае пэрыяд крызысу і нутранога заламаньня. Мы здолелі захаваць амаль паўсюль свае структуры. Захаваўся касьцяк арганізацыі (хаця, як ні дзіўна, найбольшыя страты адбыліся ў нас у Менску, і тут як кіраўнік, хай сабе і намінальны, я адчуваю сваю вялікую віну), вярнулася і, упэўнены, вернецца яшчэ болей, шмат дастойных людзей, якія з тых ці іншых прычынаў адыйшлі ад працы Фронту. Як кажуць, былі б косьці, а мяса нарасьце.

Тым ня менш, частка нашых даўніх сяброў апынулася ў палоне фарысэйства, а часам і адкрытай хлусьні, якая бесперапынна лілася на галовы В. Вячоркі, Л. Баршчэўскага, В. Івашкевіча ды і маю таксама з боку цяперашняга кіраўніцтва КХП. Я заклікаю сяброў КХП, якія паддаліся душэўнаму парыву, не зусім разабраліся, для чаго і каму гэта патрэбна, і выйшлі з партыі і Фронту, паглядзець праўдзе ў вочы, зразумець, што яны апынуліся ў іншай арганізацыі і вярнуцца ў партыю Фронту. Вас зацягваюць на палітычную ўзбочыну, і вашая энэргія, якая б магла пайсьці на карысьць Беларусі, будзе растрачана кіраўніцтвам КХП намарна.

Бо ўжо падзеі 17 кастрычніка паказалі, што кіраўніцтва КХП ня здолела з'арыентавацца ў зусім простай палітычнай сытуацыі, не падтрымаўшы гэтую акцыю. Несур'ёзна тут казаць пра нейкія скаардынаваныя дзеяньні дзьвюх партыяў у складзе аднаго руху. Я мяркую, што з боку кіраўніцтва КХП і надалей будзе працягвацца сабатаж усяго карыснага і дзейснага, што будзе прапаноўвацца партыяй БНФ, а тым больш — аб'яднанай апазыцыяй. Але ж такая палітыка беспэрспэктыўная, і яна прывядзе адно да кампрамэтацыі беларускага адраджэнскага руху і будзе перашкаджаць распаўсюджаньню яго ідэяў у грамадзтве.

Мы павінныя быць разам. Мы павінныя гаварыць простымі і зразумелымі словамі. Мы павінныя ставіць простыя і зразумелыя мэты. Мы павінныя быць адкрытымі на іншую думку, на дыскусію. Мы і нашая палітыка павінны быць прывабнымі, а не зацятымі, і тады мы пераможам.

*Алесь Бяляцкі*

*20.10.99*

**Ад першай асобы**

# БНФ будзе моцным і дзейсным



На пытаньні «Навінаў радаў БНФ «Адраджэньне» адказвае в. а. адказнага сакратара Управы БНФ «Адраджэньне» і Ўправы Сойму Партыі БНФ ***Вячаслаў Сіўчык.***

*Кар: Што Вы чакаеце ад II сесіі VI зьезду БНФ «Адраджэньне і IV зьезду партыі БНФ?*

В.С.: Зьезды адбудуцца 30-31 кастрычніка у ДК «Сукно», традыцыйным месцы правядзеньня такіх мерапрыемстваў пры рэжыме Лукашэнкі. Я чакаю, што будуць пераадоленыя разбуральныя працэсы, якія перашкаджаюць дзеіць Народнаму Фронту апошнім часам. Будзе прынятая канкрэтная праграма дзеяньняў. Перад актывістамі Фронту будзе пастаўленая галоўная задача у палітыцы: захаваньне незалежнасьці нашай краіны і адстаўка антыбеларускага рэжыму Аляксандра Лукашэнкі. У арганізацыйнай сфэры задачай будзе давядзеньне колькасьці сяброў Партыі БНФ да 20 тысячаў к 2001 г., а таксама існаваньне структуры партыі БНФ у кожным раёне нашай краіны з арыентацыяй на штодзённую працу з насельніцтвам. Будзе сфармаваны паліткамітэт Фронту. Вельмі важным зьяўляецца больш эфэктыўная дзейнасьць камісій Сойму БНФ, Ценевага (Грамадзкага) Кабінэту БНФ і Маладога Фронту. Спадзяюся, што зьезд прызначыць рэдактара «Навінаў БНФ «Адраджэньне», і што там будзе абвешчана аб правядзеньні вулічнай кампаніі «Вясна - 2000», пачаткам якой будуць мерапрыемствы па сьвяткаваньні «Дня Волі» 25 сакавіка 2000 г.

*Кар: Па вэрсіі Зянона Пазняка, IV зьезд партыі БНФ ужо адбыўся. Зьезд якой партыі будзе 30-31 кастрычніка?*

В.С.: Гэта будзе менавіта IV зьезд Партыі БНФ, згодна з рашэньнем кіруючага органу — Сойму Партыі БНФ. За тыдзень да правядзеньня зьезду ўжо ёсьць больш за тысячу заяваў сябраў партыі БНФ, якія пацьвердзілі сваё сяброўства ў партыі бяз зьмены статуту, праграмы, назову і сымболікі. Захаваліся ўсе абласныя і раённыя структуры партыі БНФ. Сам працэс падзелу, які быў ініцыяваны Зянонам Пазьняком, быў дэструктыўны, са згубай каля тысячы сябраў Фронту, якія аб'ядналіся вакол групы Пазьняка-Папкова праз правядзеньне сходу 26 верасьня гэтага году. Соймы БНФ «Адраджэньне» і партыі БНФ лічаць, што вынікам гэтага сходу стала стварэньне новай беларускай партыі КХП БНФ, але партыя БНФ таксама мусіць захавацца, таму пасля абраньня кіраўніцтва БНФ «Адраджэньне» будзе праведзены IV зьезд партыі БНФ. Гэта ня першы выпадак, калі актывісты Фронту ствараюць новую партыю. Мы можам прыгадаць і нацдэмаў сп. А. Емяльянава, і БСДГ, якую стварыў Міхась Ткачоў, і шэраг іншых партый. Парадокс толькі ў тым, што гэтую партыю стварылі пад Зянона Пазьняка, традыцыйнага старшыню БНФ, і ў вельмі цяжкі для Беларусі момант, калі трэба было далучаць новых людзей да нацыянальнага вызвольнага руху, а не дзяліць тых, хто ёсьць. Вельмі пажадана, каб была падпісана дамоўленасьць аб сумесных дзеяньнях паміж Партыяй БНФ і КХП БНФ, бо аб'ектыўных умоў для расколу не існуе.

*Кар: А што будзе, калі старшынём БНФ «Адраджэньне» усе ж такі абяруць Зянона Пазьняка?*

В.С.: Па-першае, не абяруць, бо я перакананы, што дэлегаты зьезду здольныя аб'ектыўна ацаніць усе тыя крокі, якія зрабіў Зянон Станіслававіч за апошнія два месяцы. Падругое, Фронту зараз патрабуецца канкрэтная сыстэмная ахвярная праца дзеля Беларусі, а не «віртуальнае» кіраўніцтва, нават Зянона Пазьняка, які за сваю дзейнасьць у 1988-1991 годзе ўсе роўна трапіць ва ўсе падручнікі па гісторыі Беларусі. Патрабуецца, каб працавалі дзесяткі тысяч людзей, каб урэшце ў Беларусі была беларуская ўлада. І натуральна, пасада старшыні БНФ «Адраджэньне» ня можа быць той пасадай, куды абіраюць вясельнага генэрала. Мусім ісьці на рэформы Фронту, бо калі атрымаем у 2001 годзе паразу, устане пытаньне аб існаваньні нашай нацыі. Сёньня большасьць людзей у Беларусі ўжо разумеюць каштоўнасьці незалежнасьці і не падтрымліваюць Аляксандра Лукашэнку. Таму наступае час Народнага Фронту — аб'яднаньня ўсіх грамадзянаў супраць таталітарызму. 17 кастрычніка паказала, што можам дзеяць. Так давайце праз моцны Народны Фронт ратаваць Беларусь! А ўсё мусяць вырашыць дэлегаты 6 зьезду БНФ «Адраджэньне». І я ўпэўнены, што з гэтай няпростай сытуацыі Фронт выйдзе моцным і дзейсным.

***VI зьезд БНФ, II сэсыя.***
***Праект Дэлегацыі Маладога Фронту***

# БНФ -2000. Адзінства - Перамены - Моладзь!

## I. У XXI ст. — адзіным Фронтам

Малады Фронт выступае за адзіны й моцны, сапраўды папулярны Беларускі Народны Фронт «Адраджэньне». Нацыянальная ідэя ў нас адна, адна Беларусь, адно на ўсіх Адраджэньне - і абсалютна ясна, што і БНФ мусіць быць адзіным.

Магчыма і наступальнае, стратэгічнае адзінства трох Беларускіх Франтоў: партыі КХП БНФ, грамадзкага руху БНФ «Адраджэньне» й ягонае партыі, Маладога Фронту — і куды больш унушальнае, салідарнае адзінства каманды — арганізацыйная й ідэалягічная еднасьць фронтаўскіх партыяў і грамадзкіх ініцыятываў на базе аднноўленага БНФ «Адраджэньне», з дружным калегіяльным кіраўніцтвам.

Падзеі 17 кастрычніка й іх наступствы, новая хваля рэпрэсыяў і подых Вясны - 2000, як у свой час падзеі Вясны-96, павінны яшчэ мацней задзіночыць і мабілізаваць Беларускі Народны Фронт. Сёньняшні вырашальны час, надзённыя пагрозы й пэрспэктывы 2000 году даюць зразумець: паасобку нам ня выстаяць. Сёньня, на парозе тысячагодзьдзяў, праз дзесяць гадоў пасьля бліскучых фронтаўскіх перамогаў 1989-1991 г.г., старэйшаму пакаленьню фронтаўцаў варта ўзгадаць той легендарны дух еднасьці — і ўваскрасіць абноўлены, наступальны БНФ да 2000г.

Малады Фронт прапануе кожнай раённай, гарадзкой, абласной Радзе БНФ правесьці мясцовыя пагаджальныя канфэрэнцыі, выпрацаваць прыймальныя для кожнага канкрэтнага выпадку формы супольнае дзейнасьці й арганізацыйнага адзінства. Малады Фронт гатовы выступіць пасярэднікам у працэсе аб'яднаньня на ўсіх узроўнях.

У 2000 год абноўлены БНФ павінны ўвайсьці адзіным і дружным — такім, які зараз ёсьць Малады Фронт.

## II. Адраджэньне БНФ

Але аднаго толькі адзінства для адраджэньня БНФ недастаткова. БНФ вось ужо некалькі гадоў знаходзіцца ў хранічным крызысе і патрабуе карэннага ідэалягічнага й арганізацыйнага рэфармаваньня - прычым як эўрарэмонту структурнага й тактычнага інтэр'еру, так і глябальнага адраджэньня ідэалёгіі.

Структурная перабудова ў першую чаргу павінна пачацца з сыстэмы Кіраўніцтва, фронтаўскіх камісіяў, рэгіянальнае палітыкі й грамадзкага Камітэту.

Малады Фронт бачыць Кіраўніцтва БНФ як калегіяльнае — Палітнамітэт з 10-12 рэальна дзеючых і аўтарытэтных лідараў Фронту, зь якіх мінімум 3-4 — рэгіянальныя прадстаўнікі, — каманду прафэсыяналаў, якія ўмеюць рабіць сваю справу й трымаць сваё слова.

Фронтаўскія камісіі мэтазгодна пертварацць у шырокія грамадзкія ініцыятывы (на ўзор праваабарончае «Вясны-96», Асацыяцыі Маладых Прадпрымальнікаў ці «Рабочага»); больш таго, неабходна пашырацць спэктар грамадзкае дзейнасьці БНФ у галінах экалёгіі, спорту, сацыяльнае палітыкі, антыкрыміналу, тэхнікі, навукі й рэлігіі. Задача БНФ — ня проста ўзяць дзяржаўную ўладу, а быць да яе гатовым.

Рэгіянальная рэформа БНФ, застопараная на паўдарозе, мусіць быць актывізаваная, прычым галоўная роля ў ёй павінная быць аддадзеная мясцовай ініцыятыве й пазыцыі найбольш моцных рэгіянальных арганізацыяў.

БНФ неабходная тэрміновая адбудова Грамадзкага Кабінэту Міністраў; у стратэгічным пляне менавіта Грамадзкі Кабінэт можа надаць сацыяльнае падтрымкі й выбарчае пэрспэктывы Беларускаму Народнаму Фронту-2000.

Абноўлены й адзіны БНФ мусіць мець сваю масавую, агульнарэспубліканскую газэту. Сёньняшнія «Навіны радаў БНФ», разьвітыя з унутрыфронтаўскага бюлетэню у паўнавартасны грамадзка-палітычны пэрыёдык, здольныя заняць ключавую пазыцыю ў шэрагу цяперашняе недзяржаўнае прэсы.

Тактычныя прапановы МФ да VI зьезду БНФ выкладзеныя ў праграме «Другое дыханьне Фронту». Важны акцэнт, які неабходна дадаць сёньня — гэта стварэньне мэтадычнае базы найшырэйшае масавае грамадзка-палітычнае дзейнасьці, прычым як для ўмоваў дыктатуры, так і для эпохі верагодных рэформаў. Крызыс Фронту, крызыс вобразу дзеяньня выкліканы якраз-такі адсутнасьцю сыстэмнае стваральнае працы, спробамі вырашыць усе праблемы ўсьляпую, навобмацак, непрафэсыйна, альбо - ўраз і аўральным чынам, праз палітычныя схемы, якія даўно перасталі працаваць.

Моладзь як актыўная й дынамічная сьвежая хваля ўзроставых перамен — вось стаўка нацыянальна-вызвольнага руху. Праца ня столькі з моладзю, колькі для моладзі, мусіць стаць прынцыпам працы Фронту. У ВНУ, навукова-дасьледчых інстытутах, на прадпрыемствах неабходна гуртаваць вакол фронтаўцаў, нацыянальна сьведамых выкладчыкаў, спэцыялістаў і кіруючых работнікаў дзеля выхаваньня новага пакаленьня беларусаў. Патрэбныя распрацоўка й пашырэньне агульнанацыянальных праграмаў дзяржаўнае адукацыі, рэалізацыі ідэі Нацыянальнага Унівэрсітэту зь філіямі ў буйных гарадох. БНФ зь яго замежнымі сувязямі й аўтарытэтам мог бы садзейнічаць арганізацыі масавых студэнцкіх абменаў з эўрапейскімі ВНУ. У фронтаўскіх камісіях і адноўленым Грамадзкім Кабінэце неабходна паставіць першачарговай задачай распрацоўку й выданьне мэтадычнай і навукова-дасьледчай літаратуры, правядзеньне лекцыяў, сэмінараў, экскурсіяў, канфэрэнцыяў, арыентаваных менавіта на моладзь, мабілізаваць гіганцкі асьветніцкі, адукацыйны, пэдагагічны патэнцыял вядомейшых пісьменьнікаў, грамадзкіх дзеячоў, палітыкаў дзеля сыстэмнае й шырокае працы такога роду. БНФ мусіць працаваць на будучыню Беларусі.

Ідэалёгія, сам дух БНФ «Адраджэньне» гэтаксама патрабуе абнаўленьня. 10 гадоў таму БНФ падымаўся менавіта як рух за перабудову, нацыянальнае й духоўнае адраджэньне грамадзтва. Многія прыярытэты й найвышэйшыя імпэратывы аказаліся размытымі цяперашняй каньюнктурай, забытыя ў палітычнае сумятні апошніх гадоў і сярод унутраных разьбіральніцтваў.

Сёньняшні БНФ павінен з поўнай адказнасьцю ўзяць на сябе ідэалягічную задачу — фармуляваньне й сыстэматызацыю Беларускае Нацыянальнае Ідэі, якая на дадзены момант існуе ў выглядзе прыватных і разрозных тэзаў. Распрацоўка й пашырэньне такое Нацыянальнае Ідэі для ўсіх слаёў грамадзтва й на ўсе выпадкі жыцьця, ва ўсіх сфэрах і кірунках сацыяльна-эканамічнай і грамадзка-палітычнай дзейнасьці — гэта найгалоўнейшая місія БНФ. Толькі ён у стане даць Беларусі паўнавартасную нацыянальную дактрыну.

Нарэшце, найбольш балючай праблемай усяго БНФ сталася павярхоўнае, дэклярацыйнае стаўленьне да духовага падмурку, сьветапогляднай сыстэмы каардынатаў Адраджэньня. Хрысьціянскія прынцыпы, мільгом прадстаўленыя ў Праграме БНФ, павінныя стаць альфай і амэгай, сутнасьцю, зьместам нацыянальнага Адраджэньня, а не абстрактным элемэнтам бягучае палітычнае тэорыі. Трэба памятаць: у Беларусі бяз Бога няма пэрспэктывы.

Такім чынам, Малады Фронт прапануе:

- *Да Новага, 2000 году задзіночыць абноўлены БНФ*
- *Аднавіць і перабудаваць структурныя й арганізацыйныя мэханізмы Фронту*
- *Ажыцьцявіць поўнамаштабовае Адраджэньне БНФ — духовую рэфармацыю асобна для кожнага фронтаўца й усяго руху ў цэлым.*

Менск,
30-31 кастрычніка 1999г.

сп. Баршчэўскаму

Цалкам і поўнасьцю далучаюся да заявы Рыгора Барадуліна 28 верасьня 1999 г*.
З прывітаньнем і павагай - Васіль Быкаў.

4 кастрычніка 1999 г.

4.OCT'99 15:47 POSTI 93 ITAKESKUS 90 3431206 +358 0 3431206 P.1

fax 375 17 28 45 012
сп. Баршчэўскаму

Цалкам і поўнасьцю далучаюся да заявы Рыгора Барадуліна 28 вер.1999г.
З прывітаньнем і павагай – Васіль Быкаў

4 кастрычніка 1999 г

*Тэкст заявы Рыгора Барадуліна быў апублікаваны у нумары 7 «Навінаў радаў БНФ «Адраджэньне» за 1999 г.

*«Я, Рыгор Барадулін, прызнаю Статут БНФ "Адраджэньне" і Статут Партыі БНФ бяз усялякіх зьменаў і ў тым ліку ў назове партыі. Гатовы працаваць у Фронце й ягоных органах, калі Зьезд Партыі і руху пройдуць адначасова і выберуць агульнае кіраўніцтва. Я быў, ёсьць і буду супраць расколу Фронту. Ні пры якіх варыянтах. Толькі адзінства – нашая сіла!*
*Рыгор Барадулін*
*28.IX.99, Менск»*

## Даслоўна

### Вынятка з фанаграмы першай сесіі VI Зъезду БНФ «Адраджэньне»

***Вельмі шмат ішло спрэчак, есьць Сойм БНФ ці няма, і хто павінен прызначаць з'езд. Мы прыводзім цалкам фанаграму заканьчэньня першай сесіі VI з'езду БНФ «Адраджэньне» без каментароў.***

*(Пачатак фрагмэнту)*

...Лявон Баршчэўскі: Шаноўнае спадарства! Выношу на ваш агляд прапанову назначыць другую сесію VI з'езду Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне" на верасень – кастрычнік, як вы папрасілі ўдакладніць, 1999 г, з вызначэньнем дакладнай даты Соймам БНФ. Хто "за" – прашу прагаласаваць. Хто за? Хто супраць? Хто ўтрымаўся? (Лічыльнік з залы – «адзін, два...»). Ноль супраць, два ўстрымаліся (голас з залы – "два супраць")

За – 234, два супраць, два ўстрымаліся. Прымаецца абсалютнай большасьцю.

Шаноўнае спадарства! Гэта будзе той жа самы VI Зъезд БНФ «Адраджэньне». Таму дэлегаты – тыя ж самыя, у тым ліку і тыя, якія не даехалі, - яны маюць права перад мандатнай камісіяй з'явіцца, прадставіць пратаколы. Але з'езд гэты самы, ня семы з'езд будзе. Таму пытаньняў, хто дэлегат, хто не – не павінна быць. Зразумела. Усім зразумела? Значыць, тады будуць прынятыя праграмныя дакумэнты й будзе праведзены з'езд Партыі БНФ, паколькі час нам не дазваляе гэта зрабіць [зараз].

Дзякуй усім за цяжкую працу! Я буду прасіць маіх намесьнікаў выконваць абавязкі плённа да з'езду і падрыхтаваць гэты з'езд. Я мушу папрасіць за ўсіх прабачэньня, за гэтыя словы (далей некалькі слоў неразборліва)..., і ад сябе, і ад усіх іншых. Я хачу сказаць, што мы тым ня меньш павінныя настроіцца на працу ў абарону нашай незалежнасьці!

Дзякуй усім!

*(Канец запісу)*

## Пункт гледжаньня

# Формула рэформаў

Апазыцыйныя праграмы, сярод якіх трапляюцца сапраўдныя шэдэўры антыкрызыснае прозы, на старонках незалежнага друку зьяўляюцца з пэрыядычнасьцю заежджанае кружэлкі. З падшывак сякіх-такіх газэтаў хоць зараз могуць атрымацца цудоўныя падручнікі эканомікі й элемэнтарнае лёгікі. Чытаць прыемна — на жаль, ня болей таго. Для сёньняшніх ценевых дзеячоў рэформы ўяўляюць сабою прывідныя цені, што дружна паўстаюць зь бясплотных праграмаў у час Ікс. Дзеячы жывуць сваім тэкстам, як істыя постмадэрністы, абзацамі цытуюць паляка Бальцаровіча, чэха Клаўса й спасылаюцца на расейскіх калегаў. Што ж, мысьленьне другаснае, не прэтэндуе на сьвежасьць і ініцыятыву, у рэшце рэштаў на посьпех, а мае на ўвазе адно старанна адштампаваны дайджэст суседзкіх узораў. Формулы, якая б прадугледжвала рэальнае ажыцьцяўленьне праграмаў тут і цяпер, беларускае формулы, якая б давала фору і польскай, і чэскай мадэлям, нам не прапануюцца. Робіцца трохі не па сабе: здаецца мы гэта ўжо праходзілі гадоў 7-8 таму. І зноў за старое.

Моладзь, якая ўсе постсавецкія гады сачыла за падзеямі, пільна глядзела TV і падлічвала палітычныя трупы, ужо выдатна засвоіла, як трэба брацца за рэфармацыю, каб яна пайшла на ўра. Сапраўдныя рэформы, спадарства, пачынаюцца з галавы.

### Рэклама

Такое ўражаньне, што першыя тыдні пасьля падзеньня рэжыму мы бяздарна правалім. На пераможных, з салютамі, мітынгах, адкрычымся-адарвемся за пяць гадоў уласнага страху й прыніжэньняў, вернемся ў разрабаваныя кабінэты — ахрыплыя, спустошаныя, з дазволеным бел-чырвона-белым сьцягам наперавес, і зоймемся млявым падлікам урону. А тым часам краіна, ныючы пасьля пахмельля, будзе паціху драньцвець у прадчуваньні, што «пры гэтых» стане яшчэ галадней. Рэформы набудуць значэньне капітальнага, з пылам, грукатам і скандаламі, пераразьмеркаваньня маёмасьці, і ўсё скончыцца адчайнымі спробамі выцягнуць штосьці дзесьці на тле агульнага пагружэньня.

Баюся нас не ўратуе ані стаўка рэфінанасаваньня, ані перагляд мытных тарыфаў, ані пісьмовыя распараджэньні, спушчаныя вэртыкальна. Усё гэта, па вялікім рахунку, гаечныя ключы. А сапраўдныя ключы рэформаў, ключы запальваньня, ключы ад кватэры, дзе грошы ляжаць — яны знаходзяцца ў кожнага чалавека якраз там, дзе прынята круціць пальцам, пры скроні. Масавая псыхалёгія — ключавое паняцьце тады, калі размова йдзе аб глябальных зьменах.

Першае, аб чым трэба неадкладна распарадзіцца новаму ўраду — гэта наладзіць грандыёзную, беспрэцэдэнтную рэкляму рэформаў. Запаланіць шырокі тэлеэтэр, пераключыць на агітацыйную хвалю ўсе радыёстанцыі — ад дзяржаўных да FM, — узьняць прэсу, шоў-бізнэс, пляцы, унівэрсытэты й нават спартовыя залі на эфэктную прапаганду Трэба на ўзроўні масавае сьвядомасьці абудзіць у народа нясьцерпнае чаканьне рэформаў. Прагу рэформаў. Радасьць рэформаў! Прымусіць краіну, удыхнуўшы сьвежага паветра, жыць пераменамі. Майце на ўвазе, рэфарматарская сіла ўсяго грамадзтва, патэнцыял нацыі на парадак вышэй за магчымасьці любога казённага бюджэту ці мільярдных замежных крэдытаў. Насамрэч, вы ж не каналізацыю рамантуеце — вы рэфармуеце жывую супольнасьць, 10 мільёнаў мазгоў.

А энтузіязм насельніцтва, ахопленага павальнай ліхаманкай зьменаў — анэстэзія, якая абязбольвае й шокавую тэрапію, і радыкальна непапулярныя меры.

*Павал Севярынец*

працяг будзе

# Тутэйшыя ліцьвіны: што зь іх можа атрымацца?

***Гэтым летам у газэце «Наша ніва» зьявілася абвестка, у якой запрашаюцца да кантактаў усе, хто мае ліцьвінскую самасьвядомасьць. Гэта — спроба стварыць нацыянальнае аб'яднаньне ліцьвінаў. На восень плянуецца выданьне праграмных дакумэнтаў гэтага новага аб'яднаньня, а на зіму — устаноўчы сход.***

Ліцьвінская ідэя даволі папулярная сярод беларускіх нацыяналістаў. Яна мае пад сабою вельмі трывалы гістарычны грунт (бо Беларусьсю наша краіна пачала называцца толькі зь сярэдзіны мінулага стагодзьдзя) і рамантычную прывабнасьць (бо ў часы свайго росквіту Вялікае Княства Літоўскае было магутным і паважаным).

Але арганізатары аб'яднаньня лічаць, што беларусы і ліцьвіны — гэта дзьве розныя нацыі. Даўней былі літоўскія і русінскія паветы. Ліцьвіны больш схільныя да каталіцызму, беларусы — да праваслаўя (да таго ж яшчэ — Рускай Праваслаўнай Царквы). Беларусы размаўляюць па-расейску, альбо на трасянцы — ліцьвіны не забыліся сваёй мовы. Беларусы ў сваёй агульнай масе хочуць аб'яднаньня з Расеяй, але некаторыя баяцца, што маскалі іх асымілююць. Ліцьвіны належаць да заходняй культуры, беларусы — да ўсходняй.

Можна быць упэўненым, што арганізатараў гэтага аб'яднаньня абвінавацяць як мінімум у расколе нацыянальнага руху і фармаваньні адмоўнага вобразу беларуса. Зь першым абвінавачаньнем можна зь лёгкасьцю пагадзіцца ў тым выпадку, калі ўсё гэта скончыцца адной балбатнёй і гучнымі заявамі. Калі не — патрэбны больш грунтоўны аналіз.

Ліцьвіны і беларусы — гэта адно і тое ж альбо дзьве розныя нацыі (як сэрбы і харваты, напрыклад)? Бо ёсьць і такі падыход, які зводзіцца да дэклярацыі таго, што правільная, спрадвечная назва нашай краіны — Літва, і таму ўсе так званыя «беларусы» на самой справе ліцьвіны. Але тыя, хто гэта сьцьвярджае, не маюць рацыі. Ня трэба вырашаць нешта за іншых, і бязь іх ведама залічваць іх у ліцьвіны. Кожны мае права на самавызначэньне. Але ці не вядзе іншы падыход да расколу нашага народу на ліцьвінаў і беларусаў?

Як можна, па меркаваньні арганізатараў аб'яднаньня, адрозьніць беларуса ад ліцьвіна, распісана ў трэцім абзацы. Як мы бачым, адрозьненьні ідуць не па тэрытарыяльнай, расавай і г.д. прыкмеце, а па духу, паводзінах, па культуры. А гэта адрозьненьні кшталту субэтнас — субэтнас, а не народ — народ.

У нас тут толькі адзін больш-менш аднародны і адрозны ад іншых тутэйшы народ (з пэўнай доляй умоўнасьці можна назваць нават нацыяй) з субэтнасамі ліцьвінаў, беларусаў, касьцёльных палякаў, западнарусаў, палешукоў і г.д. Субэтнас ліцьвінаў, як я гэта разумею, — частка беларускага народу, якая мае свае асаблівыя інтарэсы і жаданьне нейк узьняць сваю ролю ў грамадзтве.

Пры спрыяльных умовах (звычайна гэта або ўмовы аўтаноміі або падзеленасьці дзяржаўнымі межамі) адрозьненьні кшталту субэтнас — субэтнас сапраўды могуць разьвіцца ў адрозьненьні кшталту народ — народ. На шчасьце, у нас такіх умоваў няма і пакуль не прадбачыцца. Адрозьненьні ліцьвінаў ад астатніх існуюць дэ-факта. І калі ліцьвіны хочуць аб'ядна́цца, каб падтрымліваць адзін аднаго і ствараць дзеля сябе лепшыя ўмовы існаваньня, — нічога кепскага і злачыннага ў гэтым няма.

Наконт другога абвінавачваньня. Хто фармуе вобраз Беларусі й беларусаў? Дзеяньні ўсіх тых, хто жыве ў гэтай дзяржаве: палітычных рухаў, уладаў, абывацеляў. І ня трэба на люстэрка злавацца, калі сам сабе не падабаешся.

Што ж трэба аб'яднаньню ліцьвінаў, каб стаць дзейснаю сілай у краіне, зрабіць рэальны крок да пабудовы (адраджэньня) Літвы? Каб мець магчымасьць стаць нацыяй, кожнай этнічнай групе, і ліцьвінам у тым ліку, патрэбна зьдзейсьніць тры рэчы.

Па-першае, стварыць літоўскі бізнэс, сваю сыстэму прамысловасьці й прадпрыймальніцтва. Сёньня моц нацыі вымяраецца не памерамі абшараў і ня колькасьцю вояў і гарматаў, але ступеньню ўладкаванасьці нацыянальнай эканомікі.

Нацыянальныя эканамічныя адзінкі зьяўляюцца грунтам, на якім вырастае дзяржаўнасьць. Літоўскія гандлёва-прамысловыя групоўкі — гэта маленькія протадзяржавы. Яны будуць здольныя на многае.

Менавіта адсутнасьць беларускага нацыянальнага бізнэсу (дзяржаўная прамысловасьць не беларуская, а савецкая, а прыватны бізнэс пераважна жыдоўскі й маскоўскі) і ёсьць прычынаю кволасьці беларускага нацыянальнага руху: бюджэтныя сродкі ідуць на БПСМ, а на гранты нічога сур'ёзнага ня зробіш.

Па-другое, патрэбнае разьвіцьцё ліцьвінскага мастацтва і культуры. У першую чаргу трэба зрабіць вобраз нармальнага ліцьвіна (і давесьці яго да людзей мастацкімі магчымасьцямі). Вобраз, да якога хацелася б імкнуцца, вобраз, на які хацелася б быць падобным. Стварыць такі вобраз, прадэманстраваць яго людзям, зрабіць яго жывым, блізкім, родным, нават трошачкі чароўным — вось справа для людзей мастацтва.

Іх намаганьнямі будзе стварацца літоўская культура. Будуць выкарыстоўвацца адметныя нормы паводзінаў, якія б вылучылі ліцьвінаў з масы «саўкоў».

Высокая, эўрапейскага роўню побытавая культура — галоўны чыньнік трываласьці існаваньня кожнага народу, надзейная гарантыя таго, што нас ніколі і ні пры якіх умовах ні маскалі, ні хто там яшчэ не асымілююць. Бо ня можа народ з нізкай побытавай культурай асымілявраць народ з больш высокай побытавай культурай. Маскалі стварылі вялікую кніжную культуру, а з побытавай культурай у іх, мякка кажучы, праблемы. У нашых землях яна заўсёды была вышэйшай. Таму ўсіх чыноўнікаў, настаўнікаў і адстаўных вайскоўцаў, якіх царскі ўрад масава засылаў сюды, мы досыць хутка і без асаблівых праблемаў асымілявалі (а не наадварот, як таго хацелася імпэрцам). Толькі пасьля калектывізацыі і ўрбанізацыі, калі сялянская побытавая культура была зьнішчаная, а гарадзкая культура стваралася ва ўмовах сталінскай культурнай палітыкі, русіфікацыя пачала быць пасьпяховай. Таму важнасьць культуры нельга недаацэньваць. Бо «саўка» чакаюць толькі два шляхі — або асыміляцыя, або заўчасная сьмерць ад ныякаснай гарэлкі.

Па-трэцяе, патрэбна стварыць ліцьвінскую навуку. Народ без уласнай навукі вымушаны гаварыць на пэрыфэрыі гісторыі. Такі народ заўсёды бедны, бо капітал як самы ліквідны рэсурс экономікі хуценька ўцякае з краіны, якая не забясьпечыла стварэньне й падтрымку сыстэмаў тэхналягічнага й інтэлектуальнага лідэрства. Толькі навука можа быць гарантыяй устойлівага і няспыннага разьвіцьця. Міжнародны эканамічны крызыс падбіў менавіта тыя дзяржавы, дзе не было ўласнай навукі.

Сёньняшняя савецкая сыстэма ня можа забясьпечыць патрэбнага для сучаснасьці роўню навукі й адукацыі. Усё гэта трэба ствараць.

Такім чынам, з аб'яднаньня тутэйшых ліцьвінаў будзе плён, калі яны здолеюць арганізаваць дзейсную сыстэму ўзаемападтрымкі й камунікацыі, скіраваўшы асаблівую ўвагу на стварэньне гаспадарчых групаў і падтрымку сваіх дзеячоў мастацтва, навукоўцаў і інтэлектуалаў.

*Максім Мароз*



# Што хаваецца за імітацыяй інтэграцыі?

***8 кастрычніка ў афіцыйных выданьнях дзьвюх дзяржаваў — "Советской Белоруссии" і "Российской газете" — быў апублікаваны праект Дамовы аб стварэньні Саюзнай дзяржавы ў тым варыянце, які літаральна тыдзень таму быў наадрэз адрынуты афіцыйным Менскам і названы Аляксандрам Лукашэнкам "пасьмешышчам".***

Між тым, дамова не такая сьмехатворная, і расейскі друк не дарма ўжо пасьпеў вызначыць форму ініцыяванага міждзяржаўнага саюзу як канфэдэрацыю. Хаця калі больш пільна прыгледзецца да дакумэнту, дык можна зрабіць выснову пра намер стварэньня больш шчыльнага, чым канфэдэрацыя, саюзу. У надрукаваным праекце дамовы (арт. 61) гутарка йдзе ня толькі пра ўнясеньне зьменаў у дзейсныя канстытуцыі Расеі і Беларусі, але й пра стварэньне Канстытуцыі Саюзнай дзяжавы. Праект таксама прадугледжвае адзіная грамадзянства (арт. 14) і абавязковасьць некаторых нарматыўных актаў Саюзнай дзяржавы “”ва ўсіх сваіх частках для той дзяржавы, фізычнай ці юрыдычнай асобы, якому яны адрасаваныя» (арт. 59), што наўпрост супярэчыць прынцыпу канфэдэрацыі, дзе вышэйшыя органы ня маюць беспасярэдняй улады над грамадзянамі дзяржаваў- членаў канфэдэрацыі і рашэньні якіх патрабуюць ратыфікацыі нацыянальнымі органамі.

Калі б рэальна дзейнічалі цяперашнія дакумэнты Саюзу Беларусі й Расеі, дык можна было б казаць пра ўжо наяўную канфэдэрацыю. Апублікаваны ж у пятніцу праект дамовы вядзе да больш шчыльнага аб'яднаньня Беларусі й Расеі, якое больш адпавядае панятку фэдэральнай сыстэмы кіраваньня дзяржавай, у якой улада ажыцьцяўляецца адначасна агульнанацыянальным урадам і аўтаномнымі органамі кіраваньня. Пры гэтым гаворка, канешне, ня йдзе пра ўступленьне Рэспублікі Беларусь у склад Расейскай Фэдэрацыі, а пра стварэньне фэдэрацыі з дзьвюх дзяржаваў. Аднак з гледзішча захаваньня паўнаты сувэрэнітэту і адно ня мёд, і другое ня рэдзька, бо гэты варыянт дамовы прадугледжвае дэлегаваньне саюзнаму цэнтру вельмі многіх паўнамоцтваў.

Зрэшты, разьдзяленьне паўнамоцтваў паміж цэнтрам і нацыянальнымі дзяржавамі, якія ператвараюцца ў правінцыі, у дакумэнце расьпісанае вельмі цьмяна, і пры жаданьні можа тлумачыцца па-рознаму. У арт. 4 указваецца, што «для рэалізацыі мэтаў Саюзнай дзяржавы ствараюцца Найвышэйшая Дзяржаўная Рада, Парлямэнт, Рада Міністраў, Суд, Падліковая Палата Саюзнай дзяржавы», а «дзяржаўную ўладу ў дзяржавах-удзельніцах ажыцьцяўляюць утвораныя імі ў адпаведнасьці зь іх Канстытуцыямі дзяржаўныя органы».

Пра зьмену нацыянальных канстытуцыяў мы ўжо згадвалі вышэй. Мэтамі стваранай дзяржавы, натуральна, указваюцца прыкладна тыя ж палажэньні, што ўжо задэкляраваныя ў нацыянальных канстытуцыях у якасьці дзяржаўных гарантыяў грамадзянаў. Пры гэтым адзіная наўпрост указаная ў Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь («зрабіць сваю тэрыторыю бязьядравай зонай, а дзяржаву - нэўтральнай») не знайшла адлюстраваньня ў пераліку мэтаў Саюзнай дзяржавы. У той жа час Расейская Фэдэрацыя, якая ня мела ў Канстытуцыі выкладзеных мэтаў сваёй дзяржавы, а толькі адно апісальнае ўказаньне кірунку дзяржаўнай палітыкі («на стварэньне ўмоваў, якія забясьпечваюць годнае жыцьцё і вольнае разьвіцьцё чалавека»), пранесла гэты тэзіс у Саюзную дамову, але ўжо пад назвай мэты.

Наагул жа, у праекце дамовы ўказваюцца 8 новых для Беларусі й Расеі мэтаў, сярод якіх неабходна адзначыць «фармаваньне адзінай прававой сыстэмы дэмакратычнай дзяржавы» й «правядзеньне ўзгодненай зьнешняй палітыкі ў галіне абароны». З улікам меркаванага зьмяненьня канстытуцыяў пад новыя рэаліі Саюзнай дамовы (арт. 61) іх нельга разглядаць як абмежавальнік фантазіі бацькоў-заснавальнікаў Саюзнай дзяржавы, таму пры ўнікальнай неканкрэтнасьці палажэньняў праекту дамовы можна толькі гадаць пра меркаваны дзяжаўны лад меркаванай Саюзнай дзяржавы.

Грамадзянаў дзяржаваў, якія зьліваюцца ў адну Саюзную дзяржаву, асабліва закране (у разе рэалізацыі, вядома) арт. 13 праекту дамовы: «Саюзная дзяржава мае адзіную грашовую адзінку (валюту). Грашовая эмісія ажыцьцяўляецца толькі адзіным эмісійным цэнтрам. Увядзеньне і эмісія іншай валюты ў Саюзнай дзяржаве, апроч адзінай грашовай адзінкі, не дапускаецца». Мяркуецца (прынамсі, так напісана ў суправаджальным да праекту дамовы тэксьце «Пра прграму дзеяньняў Рэспублікі Беларусь і Расейскай Фэдэрацыі па рэалізацыі палажэньняў Дамовы пра стварэньне Саюзнай дзяржавы»), што да 2005 г. будзе ажыцьцёўленая «паэтапная валютная інтэграцыя».

Наагул, апублікаваны 8 кастрычніка пераказ праграмы зьмяшчае асноўныя этапы стварэньня Саюзнай дзяржавы - указваецца, што да 2002 г. мусіць ажыцьцявіцца ўніфікацыя грамадзянскага права й заканадаўства, якое рэгулюе гаспадарчую дзейнасьць, уніфікацыя й збліжэньне падатковых заканадаўстваў абяцаецца ўжо да 2000 г., а ў 2002 г. мусіць быць прыняты адзіны падатковы кодэкс. Аднак ня менш важны парамэтар - бюджэт Саюзнай дзяржавы - указваецца вельмі расплывіста: у 2000-2001 гг. фармаваньне яго даходнай часткі павінна ажыцьцяўляцца за кошт фіксаваных адлічэньняў зь бюджэтаў дзяржаваў-удзельніцаў, а на другім этапе - да 2004 г. - забясьпечаны «пераход да адзіных сцэнарных умоваў эканамічнага разьвіцьця і прыняцьця нарматыўна-прававых актаў у галіне бюджэтнай палітыкі». Што гэта азначае, ня ўказваецца ні ў праекце дамовы, ні ў апублікаваным побач зь ім пераказе праграмы, як не ўказваецца, калі мусяць пачаць працаваць палітычныя інстытуцыі - Найвышэйшая Дзяржаўная Рада, Рада Міністраў, Парлямэнт і Суд.

Затое ўказваецца, што ўжо ў новым годзе мусіць быць прынятая «адзіная ваенная дактрына Саюзнай Дзяржавы, створаная рэгіянальная групоўка войскаў, будуць фармавацца сумесны абаронны заказ і сумесная праграма ўзбраеньня дзяржаваў-удзельніцаў». У агульнадаступных дакумэнтах не гаворыцца, ці будзе нашая дзяржава ў зьвязку з гэтым адмаўляцца ад бязьядравага статусу, на якіх умовах будзе стварацца групоўка войскаў і ці не надыйдзе ў зьвязку з гэтым адпраўка беларускіх грамадзянаў для праходжаньня службы ў расейскія «гарачыя кропкі»? Калі маецца на ўвазе нешта іншае, тады што азначае «сумеснае выкарыстаньне вайсковай інфраструктуры і прыняцьце іншых мераў для падтрыманьня абараназдольнасьці Саюзнай дзяржавы» (арт. 17)?

Прыхільнікі беларуска-расейскай інтэграцыі ў апублікаваным праекце дамовы ўбачаць шэраг палажэньняў пра ўніфікацыю заканадаўства ў эканамічнай сфэры, агульную мытную прастору і распаўсюджваньне расейскіх дэмакратычных нормаў на беларускія «аўтарытарныя» рэаліі. Аднак арт. 25 і іх можа прымусіць задумацца пра верагодныя наступствы: «У Саюзнай дзяржаве ствараецца адзіная прававая база ў галіне абслугоўваньня і пагашэньня зьнешняй і нутраной пазыкі, парадку ажыцьцяўленьня зьнешніх запазычваньняў, а таксама адзінае заканадаўства пра замежныя інвэстыцыі. Дзяржавы-ўдзельніцы будуць сумесна заключаць з трэцімі краінамі міжнародныя дамовы па гэтым пытаньні, узгоднена прымаць на сябе абавязкі».

Працытаваны вышэй артыкул праекту дамовы дапускае мноства варыянтаў прачытаньня. Ці варта разумець так, што пасьля заснаваньня Саюзнай дзяржавы Беларусь і Расея будуць толькі сумесна браць пазыкі ў трэціх краінаў, узяўшы абавязкі па ўзаемных пазыках? Ці не давядзецца нашай краіне ў гэтым выпадку расплочвацца за велізарныя старыя расейскія пазыкі? Ці толькі за сумесныя, а рэальна - усё адно расейскія, але ўжо толькі новыя пазыкі? Ці гаворка йдзе толькі пра згоду краінаў-удзельніцаў дамовы на рабленьне пазыкаў адна адной? Як гэта можа адбывацца ў выпадку стварэньня адзінага эмісійнага цэнтру?

Апублікаваны праект дамовы пра стварэньне Саюзнай дзяржавы правакуе неверагодную колькасьць пытаньняў. У тэксьце можна ўбачыць усё што заўгодна апроч канкрэтных адказаў. З улікам некантраляванага грамадзянамі «ўсенароднага абмеркаваньня» (пішуце лісты ў Выканкам СБР), у выніку якога можа быць зьменены дзяржаўны лад Беларусі й Расеі альбо, магчыма, ліквідаваныя дзьве сувэрэнныя прэзыдэнцкія рэспублікі і заснаваны новы Савецкі Саюз, для выхаду зь якога (у выпадку такой патрэбы) будзе неабходна праводзіць рэфэрэндум, — усё гэта наводзіць на вельмі сумныя думкі.

Ёсьць такое правіла: падобнае хаваюць сярод падобнага, напрыклад, дыямэнт - сярод падробных дыямэнтаў-шкелцаў... За імітацыяй стварэньня хімэрычнай Саюзнай дзяржавы цалкам можа хавацца новая імпэрыя, і з грамадзянаў хай не ідэальных, але сувэрэнных дзяржаваў мы раптам можам ператварыцца ў чыіхсьці падданых.

# Як гэта было

## Чаму я быў там?

Таму што за апошнія 5 год мой заробак упаў з 120 умоўных адзінак да 30, а пэнсіі маіх сваякоў - з 75 у.а. да 10. Таму што дарагоўля прадуктаў, тавараў, лекаў... Таму што холад у кватэрах і на працы. Таму што беларусаў перасталі паважаць ва ўсім сьвеце, пра нас па СНД расказваюць показкі, параўноўваючы з дзікунамі - у вуснай народнай творчасьці мы замянілі чукчаў.

## Чаго хацелі дэманстранты?

Хацелі паказаць, што ня могуць болей так жыць, што любяць Радзіму, што не прададуць яе, як некаторыя, ні за якую пасаду ў Саюзе, што не адпусьцяць сваіх дзяцей і ўнукаў ваяваць за чужыя інтарэсы ў Чачэніі, што цудоўна разумеюць сэнс большасьці дэкрэтаў: давесьці прадпрыемствы да ручкі і прадаць іх за бясцэнак ўсялякім чубайсам, беразоўскім і мясьніковічам. І, канешне, не дазволяць бяздарнасьцям называць іх, паважаных людзей, работнікаў і сялянаў, настаўнікаў і дактароў, пісьменьнікаў і мастакоў, прафэсараў і акадэмікаў, студэнтаў і школьнікаў, пэнсіянэраў, мужчынаў і жанчынаў, — «отребьем».

## Як усё пачыналася?

З правакацыяў. На маіх вачох асобы ў цывільным яшчэ да пачатку зьбівалі людзей на падыходзе да месца збору. Сярод дэманстрантаў, у адрозьненьне ад правакатараў, не было аніводнага п'янага, пра што, дарэчы, сьведчаць пратаколы затрыманьняў. Ва ўсіх быў радасны, узрушаны настрой. Жанчыны везьлі ў калясках малышоў, было шмат інвалідаў. Пасьля мітынгу людзі хацелі прайсьці па родным горадзе. Хіба яны ня маюць на гэта права? Няўжо вуліцы Менску толькі для АМОНу і машынаў зь мігалкамі?

## Што здарылася пасьля?

Калёну ганялі па розных вуліцах, перакрываючы шляхі ланцугамі міліцыянтаў, пакуль не загналі ў тупік. Выскоквалі з двароў, выхопліваючы людзей. Наладзілі правакацыйны пажар паштовага аддзяленьня, але пасьпяшаліся - калёна да месца здарэньня прыпазьнілася. Калі дэманстранты натыкнуліся на велічэзны спэцназаўскі кардон, М. Статкевіч узяў у міліцыянтаў мэгафон і разьвярнуў галаву калёны назад. Тады, не даючы апомніцца, з-за шэрагаў міліцыі, што расхінуліся, сталі выскокваць па 10-15 чалавек і хапаць тых, хто бліжэй. Першым на вачох у натоўпу схапілі нейкага старога. За яго заступілася мясцовая моладзь, якая прыйшла паглядзець на відовішча, да іх далучылася моладзь з калёны. Побач, нібы спэцыяльна, былі складзеныя рэшткі ходніку, разабраныя рэшткі бардзюраў і брукаванкі. Мэта - узлаваць абодва бакі - была выкананая. А далей пачалося страшнае. З крыкамі і матам накінуліся з усіх бакоў. У дварох зьбівалі да паўсьмерці ўсіх: мужчынаў і жанчынаў, дзяцей і старых...



## Хто ж заплаціў дэманстрантам?

Каму мы патрэбныя! Эўропа нас з задавальненьнем здасьць Расеі, толькі б не было такой ідыёцкай дыктатарскай дзяржавы ў самым яе цэнтры. Ім трэба нафта і газ без пасярэднікаў.

Зь Віцебску прыехала некалькі дзясяткаў чалавек: шмат моладзі, студэнтаў. Прыехалі за свой кошт - спытайце іх. Так, лішняга мільёну на паездку няма ні ў каго, але Радзіма даражэй. Тысячы людзей ужо маўчаць ня могуць. У адрозьненьне ад тых, хто баязьліва разглагольствуе і скардзіцца на жыцьцё за чаркай самага таннага прадукту, яны захацелі сказаць пра гэта на ўвесь голас. І ў першую чаргу «НЕ» сказала моладзь, якая не жадае жыць у галечы і бясправаі. А плацяць, як шчыра выказаўся дэпутат Расейскай Дзярждумы Мікалай Ганчар, уладам Беларусі, каб яны за бясцэнак і пасаду ў Крамлі распрадалі краіну магнатам з суседняй дзяржавы, а не, крый Божа, Заходу! І плацяць мільярды.

## Ці можна прадаць Беларусь?

Можна. Але мільёны тых, хто любіць Радзіму, яе ніколі не здадуць. Гістарычную ходу падзеяў можна павярнуць назад толькі на сьціслы час. Народ можна зьнішчыць, але скарыць - не. Мы за годнае жыцьцё, мы за шчасьце ўсіх людзей Беларусі, мы супраць здрады й сьмерці народу! Наша справа справядлівая, і мы пераможам!

*Васіль Шалухін,*
*старшыня Віцебскай гарадзкой арганізацыі БНФ*




Навіны

РАДАЎ БЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА ФРОНТУ "АДРАДЖЭНЬНЕ"

№ 11, кастрычнік 1999 г, наклад 299 асобнікаў
Распаўсюджваецца бясплатна на правах унутранай дакумэнтацыі.

У нумары скарыстаная выява Пагоні з тытульнага аркуша Статута Вялікага Княства Літоўскага 1588 г.

Адрас для ліставаньня: 220006, Менск, а/с 27, тэл. 284-50-12

E-mail: bpf_news@politician.com

в.а. рэдактара Віктар Івашкевіч